РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА: БРАСЛАЎ, ГЛЫБОКАЕ, ДОКШЫЦЫ, МЁРЫ, ПАСТАВЫ, ШАРКОЎШЧЫНА.

*Жыве Беларусь!*

# ВОЛЬНАЕ ГЛЫБОКАЕ

Free Hlybokaye Wolne Glebokie

*Дык жа ўцям! На Беларусі -- беларусы жывуць!*
*Янка Купала.*

Выдаецца са снежня 1994 года | №7 (39), сакавік, 2000 года | Кошт па дамове

## ЦЫТАТА НУМАРА

**Так і знікне народ, і згніе,**
**Хоць працуюць тут адмыслова.**
**Мы -- дыяспара ў роднай краіне,**
**Дзе цураюцца роднага слова.**
*А. Белы. «Манкуртызацыя».*

## ВЯСНА -- 2000

Акцыя апазіцыі «Вясна -- 2000» уключае ў сябе «Марш Свабоды - 2», які прайшоў 15 сакавіка; Дзень Волі -- 25 сакавіка; Чарнобыльскі Шлях --26 красавіка і Дзень Салідарнасці -- 1 мая. Як сказаў старшыня БНФ «Адраджэньне» Вінцук Вячорка, «Новы 2000 год скончае другое тысячагоддзе. У нас ёсць толькі адзін год, каб змяніць жыццё ў краіне. Бо як новае тысячагоддзе сустрэнеш, так яго і правядзеш. Мы паставілі мэтай увайсці ў новае тысячагоддзе без дыктатуры, вольнай і незалежнай краінай... У нас ёсць воля і рашучасць адстаяць незалежнасць Беларусі».

Што тычыцца «Марша Свабоды - 2», то ў ім прыняло ўдзел не менш 25 тысяч чалавек. На плошчы Я. Коласа ў Мінску была арганізавана сімвалічная раздача ксеракопій, якія напаміналі 100-доларавыя купюры ЗША. Такім чынам арганізатары мерапрыемства адрэагавалі на абвінавачванні ўлад у тым, што за ўдзел у падобных акцыях дэманстранты атрымоўваюць долары.

**Б.К.**

## У «БЕЛАРУСБАНКА» МОЖНА ЗАПАЗЫЧВАЦЬ ВАЛЮТНЫЯ СРОДКІ

Савет Міністраў РБ дазволіў сёлета Міністэрству фінансаў запазычваць у Ашчаднам банку «Беларусбанк» валютныя сродкі на агульную суму 15 млн. долараў ЗША. Сродкі выдаюцца на тэрмін да 31 снежня 2001 года з штомесячнай выплатай за час карыстання 10% гадавых. Мінфіну дазволена выдаць на указаную суму векселі, забяспечаныя гарантыяй урада Беларусі. Сродкі павінны быць накіраваны на ліквідацыю знешняга доўгу Беларусі. У 2000-ым годзе для разлікаў па знешніх дзяржаўных даўгах Беларусі спатрэбіцца каля 130 млн. долараў.

**Наш каментарый:** *паколькі ўся Беларусь жыве па прынцыпу «з печы -- у рот» (што зарабляем, тое і праядаем), то знешні доўг вырашана заплаціць валютнымі сродкамі ўкладчыкаў, якія спакусіўшыся на рэкламу аб вялікіх працэнтных прыбытках, паклалі грошы ў банкі. Узамен усе яны атрымаюць **векселі, «забяспечаныя гарантыяй урада»**. Калі хто яшчэ не паспытаў на сабе сілу і моц дзяржаўных гарантый, паспытае, калі замест сваіх грошай атрымае вексель.*

А. Амсавецкі

## ЗАРПЛАТЫ І ПАДАТКІ

У канцы мінулага года палова працуючых жыхароў Латвіі атрымоўвала зарплату 50-100 латаў у месяц **(63 - 125$)**. Самым расходным артыкулам у краіне з`яўляюцца камунальныя паслугі, на якія ідзе ў сярэднім 85 - 100$.




*«Возера Белае». Графіка В. Кіменкі, г. Глыбокае.*



**Мой любы край, не дакарай,**
**Што славіць зноў бяруся...**
**Калі і ёсць на свеце рай,**
**Дык ён -- на Беларусі.**
*С. Законнікаў*

## У Глыбоцкім касцёле новы ксёндз

Як ужо пісала наша газета, ксёндз-дзекан Глыбоцкага Троіцкага касцёла Цырыль Клімовіч стаў біскупам. Глыбоцкую каталіцкую парафію зараз узначальвае ксёндз Пётр Врубель, які раней працаваў у касцёлах вёскі Лучай і Дунілавіч. Новы ксёндз вельмі добры, шчыры чалавек, які імкнецца дапамагаць людзям, адраджае духоўнасць і культуру, працягвае справы, пачатыя яго папярэднікамі. У канцы лютага ў касцёле ўпершыню выступіў царкоўны хор, у складзе якога прафесіяналы -- людзі таленавітыя, з багатым песенным вопытам, многія з іх працуюць у музычнай школе і ў іншых установах культуры і адукацыі. Хор налічвае 14 чалавек, сярод удзельнікаў і жанчыны, і мужчыны. Ініцыятарам стварэння прафесійнага хора стаў ксёндз Пётр Врубель і выкладчыкі музычнай школы Д. Бутурына, Н. Казлоўская, Н. Мікуліч, М. Блышко. Да слова, не першую нядзелю, спявае такі ж, прафесійны хор і ў Глыбоцкім Саборы.

Ксёндз Пётр Врубель мае на мэце стварыць з ліку хлапчукоў, якія займаюцца ў школе пры касцёле, футбольную каманду, ладзіць спаборніцтвы з равеснікамі з іншых раёнаў, а для ўсіх дзетак арганізаваць лагер адпачынку, дзе па тыдню будуць з задавальненнем праводзіць час юныя парафіяне. Распачата будаўніцтва нядзельнай школы. У добрых справах і пачынаннях ксяндза падтрымліваюць усе веруючыя. Радуе тое, што колькасць тых, хто жадае жыць па Божых законах, з Божай верай і літасцю павялічваецца, што ў касцёл прыходзяць дзеці -- наша будучыня.

«Вольнае Глыбокае» жадае поспехаў Пятру Врубелю і яго памагатым у нялёгкай працы на ніве адраджэння.

**Г. Бялята**

## Альтэрнатыўны канал БТ: міф ці рэальнасць?

26 студзеня ў Дзяржаўным камітэце па друку па ініцыятыве амерыканскага боку адбылася сустрэча яго старшыні М. Падгайнага з паслом ЗША ў нашай краіне Даніэлам Спекхардам, якога цікавіла інфармацыя аб асаблівасцях функцыянавання сістэмы сродкаў масавай інфармацыі Беларусі «з першых вуснаў».

А ў канцы студзеня аб рабоце сродкаў масавай інфармацыі выказаўся кіраўнік краіны. Ён ацаніў работы беларускага радыё і тэлебачання, як «дрэнную», на «якую шмат нараніяў слухачоў і гледачоў», «перадачы не даюць магчымасці выбару». Што праўда, то праўда. У кожнай грамадска-палітычнай праграме адны ўхваленні курса ўрада, яго работы. Што б ні рабілася ў краіне -- усё правільна, а жывём усё горш і горш. Каму патрэбен гэты салодкі падман? Каго стараемся мы самі абмануць? Саміх жа сябе.

Для тых журналістаў і вядучых перадач, тыпу «Размова па-сутнасці» у прамым эфіры, якія не шкадуюць хвалебных слоў у адрас праводзімай палітыкі дзяржавы і яе асобных кіраўнікоў і на працягу паўгадзіны па 40-50 разоў успамінаюць імя прэзідэнта, падобная ацэнка работы «з першых вуснаў» добрая аплявуха: перастараліся. Інфармацыя павінна канстатаваць факты перш за ўсё, а ўжо каментарыі народ няхай дае свой.

Каб выправіць становішча, прэзідэнт адвёў паўгода тэрміну і распарадзіўся стварыць яшчэ адзін беларускі канал. Магчыма, на адным будзе толькі палітычнае «шоу», а на другім -- забаўляльные. Будзем паглядзець.

**С. Цімашэнка**

## Дарожнае здарэнне

На днях на адным з чыгуначных пераездаў Шаркоўшчынскага раёна «Опель - Кадэт» сутыкнуўся з цеплавозам. Здарэнне адбылося па віне вадзіцеля, які выехаў на пераезд, калі працавала светлавая і гукавая сігналізацыя, якая забараняла рух. Цеплавоз адкінуў аўтамабіль. На шчасце, абышлося без ахвяр. Можа таму, што вадзіцель быў цвярозы.

**У. Шык.**

## Адным радком

### КУЛЬТУРА

Беларускаму тэатру «Лялька» указам кіраўніка дзяржавы прысвоена званне «Заслужаны калектыў Рэспублікі Беларусь».

### ФІНАНСЫ

«З пачатку антытэрарыстычнай аперацыі ў Чачні за некалькі месяцаў страчана каля 5 млрд. руб.», -- заявіў віце-прэм`ер Расіі Міхаіл Касьянаў.

### БЕНЗІН

Са студзеня гэтага года на Пастаўшчыне вадзіцелі могуць штодзень заліць у бензабак толькі 20 літраў паліва і то пры прад`яўленні пашпартоў з мясцовай прапіскай. Плацяць у рублях. З жыхароў іншых раёнаў і прыбалтаў тут бяруць валютай і выдзяляюць ўсяго па 10 літраў бензіну і па 15 дызпаліва.

### ПАСАДЫ

На пасадзе прэм`ер-міністра С. Лінга замяніў «рускі чалавек, выхадзец з глыбінкі Разанскай вобласці» Уладзімір Ярмошын.

### ПРЫЗНАЧЭННІ

У Фінляндыі прэзідэнтам стала жанчына, былы міністр замежных спраў Таары Халанен.

### КРАДЗЕЖ

У ноч з 31 студзеня на 1 лютага з гаража Глыбоцкага ўпраўлення сельскай гаспадаркі былі ўкрадзены «Жыгулі» колеру баклажан 1997 года выпуска, якія належалі міжраённаму камітэту дзяржкантроля.

### ТАРГІ

Канадскі музей ваеннай гісторыі можа выставіць у продаж асабісты «Мерсэдэс» Адольфа Гітлера. Шасціметровы браніраваны аўтамабіль, вага якога больш 4 тон, мае куленепрабіваемае шкло і можа каштаваць некалькі дзесяткаў мільёнаў долараў. На атрыманыя грошы музей хоча пабудаваць новы будынак.

### КАРУПЦЫЯ

Колькасць выяўленых фактаў карупцыі сярод маскоўскіх чыноўнікаў сёлета ўзрасла з 421 да 493 выпадкаў.

### РЫБАЛКА

У Гродзенскім раёне на возеры ў час рыбнай лоўлі праваліліся пад лёд і ўтапіліся два пенсіянеры.

## Долары--марачкі--рублі

Падышоў неяк да валютнага кіёска ля ўнівермага. За людзьмі цэн не бачна па колькі што прымаюць, па колькі прадаюць.Чарга стаіць купляць ці здаваць? Хто здае, хто купляе, але тых, хто здае бывае больш. Нейкі дзядок кажа: «Во людзі разбагацелі! Долары абменьваюць, тавары скупляюць, а ўсё жаляцца, што бедныя. Во перада мной мужчына які ахапак грошай трымае. Напэўна адразу тысячу даляраў купіць».

Як высветлілася, за той ахапак, што трымаў у руках шчупленькі ваенны, ён змог купіць толькі 50 «баксаў» і то сказаў: « А каб жа ты дзед ведаў колькі я эканоміў, каб гэтыя грошы сабраць». Калі дадаць, што ў лютым -- сакавіку стала традыцыйным на Глыбоччыне затрымліваць авансы ды зарплаты, то гэты відавочны абмен «зялёных» на беларускія не прыкмета багацця, а сімптом пагаршэння жыцця: каб выжыць, дажыць да якога рубля, пракарміць сям`ю людзі абменьваюць долары, прыхаваныя на «чорны дзень». Гледзячы на штодзённыя чэргі, можна пераканацца, што «чорныя» дні ўжо наступілі для многіх. А што будзе з намі, калі запасы на «чорны» дзень скончацца, а краіна не развітаецца з традыцыяй аплачваць нашу працу несвоечасова.

**Ш. Гуляшэвіч**

## «Прывід камунізму блукае па Еўропе»

У многіх цывілізаваных краінах на Захадзе забаронены фашызм і камунізм, якія прынеслі людзям свету столькі бед і гора. Забараніць кампартыю, пазбавіць ўплыву Расіі патрабуюць і маладыя ўкраінскія хлопцы з руху «За самасційную Украіну». Яно і зразумела, прывід камунізму, які блукае без справы па Еўропе, надакучыў усім, бо менавіта ён перашкаджае жыць па-людску, пужаючы сваім прыходам да ўлады.

**А. С.**

## Дэкрэт аб скарачэнні на ўтрыманне органаў дзяржкіравання

Дэкрэт прадугледжвае скарачэнне на 10% расходаў на ўтрыманне органаў дзяржаўнага кіравання ўсіх узроўняў. У прыватнасці, расходы на ўтрыманне Нацыянальнага сходу змяншаюцца на 109 млн. 501 тыс. руб.; расходы на функцыяніраванне органаў дзяржкіравання на 2 млрд. 55 млн. 267 тыс. руб. Фінансаванне дзейнасці фінансавых і падатковых органаў зменшана на 1 млрд. 946 млн. 680 тыс. рублёў. Агульнае скарачэнне дзяржзатрат складзе 4 млрд. 135 млн. 162 тыс. рублёў. Усе гэтыя сродкі будуць пераличаны ў рэзервны фонд прэзідэнта і зарэзерваваны «на неадкладныя патрэбы аховы здароўя». 10%- нае скарачэнне расходаў на ўтрыманне апаратаў мясцовых выканаўчых органаў будзе праведзена ў **мясцовых бюджэтах**, а сродкі накіраваны ў **абласныя рэзевныя фонды.**

**Ю. Пацёмкін,** БелаПАН.

## Пастаўскія фермеры

У сакавіку 1991 года жыхар вёскі Савічы Пастаўскага раёна Іван Гаўрыленка стаў першым уласнікам паўсотні гектараў зямлі і заснаваў узорную фермерскую гаспадарку «Крыніца». У апошнія гады разам з бацькам працаваў і яго сын, былы гарадскі настаўнік, а зараз уладальнік сваёй фірмы «Раніца». Па вырошчванню пладагародніннай прадукцыі Гаўрыленкам у акрузе няма роўных. Толькі летась бацька з сынам прадалі спажыўцам 56,7 тон кабачкоў, амаль 20 тон капусты, шмат агуркоў і зерня. Да цяперашняга на Глыбоцкім кансервавым заводзе ўспамінаюць добрым словам дастаўленую пастаўскімі фермерамі капусту.

**У. Шык**

## Вялікі агонь на Малой вуліцы

12 сакавіка ў жылым прыватным сектары па сталічнай вуліцы Малая адбыўся пажар, якога спецыялісты Мінска даўно не памяталі. У адначассе загарэліся некалькі дамоў і гаспадарчых пабудоў, чуліся ўзрывы. Дзесяткі пажарных вылілі тоны вады, а полымя большала. Выкарысталі паветрана-механічную пену. Барацьбу з агнём вялі чатыры гадзіны. Каб збіць полымя ў падвале, нават разбівалі фундамент. Ніхто з жыхароў не пацярпеў. Прычына пажару ўстаноўлена: дом падпаліў сам гаспадар-пенсіянер. Неверагодныя запасы гаручазмазачных матэрыялаў -- каля 130 каністраў з бензінам, 5 чаноў на 5 «кубоў» з гаручай вадкасцю, 4 газавыя і 2 кіслародныя балоны -- даказваюць наўмысны падпал. Пенсіянер застрэліўся з паляўнічага ружжа.

**М. Шабан**

## «Гермес» запрашае модніц

Зноў адчыніў дзверы пакупнікам магазін «Гермес», што па вуліцы Энгельса. Пакупнікі добра ведалі яго, як харчовы, але сёння ён змяніў «арыентацыю» і прапануе жаночае і дзіцячае адзенне, даволі сучаснае і моднае для раённага гарадка. Рознакаляровыя прыталеныя касцюмы, вячэрнія сукенкі, джэмперы, спадніцы тут у асартыменце. Кошт адпаведны модзе: 20 -- 28 тыс. рублёў. Так што «Гермес» зараз запрашае не проста пакупнікоў, а модніц з грашыма.

**Я. П**




## Булачка да дня Канстытуцыі

Па іроніі лёсу з 15 сакавіка -- дня Канстытуцыі, якая дэкларуе сацыяльную абароненасць грамадзян, у пастаўскай СШ№2 і іншых школах райцэнтра на абед дзецям пачалі даваць толькі булачку з чаем.

**У. Шык.**

## Чарга ў Саюз?

Апошнім часам афіцыйны друк распаўсюджвае тую ідэю, што далучыцца да Саюза Расіі і Беларусі ёсць шмат жадаючых. У якасці прыкладу прыводзіцца Югаславія, якая сніць і бачыць сябе «раднёй» Саюза. На самай жа справе, ніводная з краін былога сацыялістычнай садружнасці не жадае яднацца. А дадзеныя апытання, праведзеныя ў Югаславіі белградскім Інстытутам грамадскіх навук, сведчыць аб адваротным: **56%** апытаных выказаліся **за ўмацаванне сувязей з Еўропай, 14% -- за ўмацаванне супрацоўніцтва з суседнімі краінамі** і толькі 8% арыентаваны на актывізацыю адносін з Расіяй. Аднак, гэтыя дадзеныя падаюцца афіцыйнымі асобамі Югаславіі, як «заказныя, якія не адпавядаюць рэчаіснасці». Каму і як выгадна. Прыкрываць народам і здаваць нацыю ў застойна-бальшавіцкую багну сёння некаторым выгадна. Можа які палітычны капітал такія палітыкі ў сваім асяродку ад гэтага і займеюць, а ад народа акрамя праклёну нічога не дачакаюцца.

**Б.К.**

## Святочныя дні не прыносяць свята

!5 сакавіка -- Дзень Канстытуцыі. Пра гэта ведаюць усе дарослыя. А вось пра тое што 15 сакавіка -- дзень спажыўцоў чулі, напэўна, не ўсе. Не так даўно быў прыняты закон аб абароне нашых спажывецкіх правоў.

І ўсё ж калі казаць пра галоўнае, ад чаго павінна абараняць дзяржава беднага беларускага спажыўца -- гэта ад шалёных цэн, дзякуючы якім узнікаюць іншыя парушэнні: прасрочаныя тэрміны захоўвання тавараў, няякасныя прадукты. Няма за што купляць вось і псуецца. Хутка дажывём да таго, што спажываць нешта з магазінаў будзем толькі раз у год, у дзень спажыўца.

**М. Шараў.**

## Будзем сеяць за грошы бюджэтнікаў

Хочаш не хочаш, а вясна наступае.

Май не за гарамі, а там і напружаны час -- сяўба. Ужо сёння з размоў з настаўнікамі даведаліся пра цікавыя навіны. Пачынаючы з вясны, настаўнікі (можа і ўрачы і іншыя катэгорыі супрацоўнікаў бюджэтнай сферы) будуць атрымоўваць у зарплату «голенькія аклады», а ўсякага роду надбаўкі за стаж, катэгорыю, індэксацыю, кампенсацыю будуць выдаваць «апасля», калі -- ніхто не ведае, але тлумачаць, што «па меры паступлення грошы ў бюджэт». Тлумачэнне даволі зразумелае, каб вось яшчэ расказалі адкуль могуць паступаць тыя грошы? Караценькажучы, усе надбаўкі настаўнікаў пойдуць на сяўбу. Рашэнне дзяржава зноў вынайшла, нават не параіўшыся з тымі, каго хоча «экспрапрыіраваць». Ніхто не цікавіцца, што чалавек еў, што абуў, як выправіў дзяцей у школу, чым хварэе. У дзяржавы няма грошай на сяўбу і яна зноў будзе вырашаць праблемы за людскі кошт. Але ўрэшце рэшт людзі самі вінаваты ў тым, што імі так пагарджаюць.

**Я. Савойка.**



Фота Ул. Скрабатуна

## Дзяўчаты, шагам марш у армію!

Праз пяць месяцаў Армія абароны Ізраіля пачне прызываць на тэрміновую ваенную службу дзяўчат. Дзяўчаты, якія пройдуць медыцынскую праверку, могуць быць артылерысткамі, танкісткамі, радысткамі. Пры гэтым яны павінны будуць падпісаць дакумент аб згодзе служыць у арміі 30 месяцаў замест 21.

## Каталіцкі касцёл за беларускую мову

Беларуская мова паступова і няўхільна выцясняецца з ужытку ў навучальных установах, на тэлебачанні, радыё, у перыядычных выданнях, не кажучы ўжо пра «вертыкаль». Таму радуе, што на Беларусі ёсць хоць адна ўстанова, якая пашырае ўжыванне роднай мовы. Гэта каталіцкі касцёл. Але некаторыя, асабліва прадстаўнікі старэйшага пакалення, ставяцца да гэтага адмоўна. «Як гэта маліцца па-беларуску, па-польску ж пякней»,-- кажуць яны. Але ж мова -- гэта душа народа, бо мы, калі нечаму шчыра радуемся, або штосьці глыбока перажываем, то робім гэта на роднай матчынай мове. Як сказана ў Святым Пісанні, «Бог аднолькава разумее ўсе мовы», а таму грэшна думаць, што па-беларуску ён нас не чуе ці не разумее. Калі чалавек кагосьці лае або кляне, то робіць гэта на сваёй, а не на чужой мове. Усё дрэннае, як вядома, ад д`ябла. Дык што атрымоўваецца: мы яго любім больш за Бога?

**Зміцер Лупач.**

## Настаўніца звяла рахункі з жыццём

11 сакавіка ў пад`ездзе 9-паверхавага дома ў канцы вуліцы Гагарына ў Віцебску адбылася трагедыя. Жанчына выпіла воцатную эсенцыю і ўскрыла сабе вены. Дакументы былі пры ёй. Яна жыла непадалёку ад месца здарэння ў інтэрнаце, працавала настаўніцай пачатковых класаў у школе №30; ёй было 47 год. Сям`і ніколі не мела. Яна пакінула перадсмяротныя пісьмы. у адным з іх тлумачыць прычыну смерці і ўказвае канкрэтных людзей, якія «дапамаглі» ёй прыняць такое рашэнне. Як сказалі калегі па працы, жанчына загадзя рыхтавалася да смерці: пааддавала даўгі, здала кнігі ў бібліятэку, зрабіла апошнія візіты.

## Вучні выратавалі лебедзя

Не па гадах выдатныя чалавечыя якасці, дабрыню і мужнасць прадэманстравалі дарослым трое навучэнцаў Пастаўскай СШ№2. На працягу некалькіх гадзін у ледзяной вадзе яны імкнуліся заманіць у рыбацкую сетку трапіўшага ў бяду маладога лебедзя. У дзюбу птушкі нейкім чынам трапіла кальцо ад пластыкавай бутэлькі, якое ледзь не давяло саслабеўшага прыгажуна-шыпуна да галоднай смерці. Гэта заўважылі Вова Турон, Сярожа Куцепаў, Саша Шчановіч і, не дабіўшыся падтрымкі ў райінспекцыі прыродных рэсурсаў, а потым у таварыстве паляўнічых і рыбаловаў, вырашылі самі ратаваць птушку. Урэшце рэшт, школьнікі адлучылі пацярпелага ад шасці астатніх лебядзяў, якія засталіся зімаваць на рацэ Мядзелка, пакармілі яго, а потым беражліва адпусцілі на волю.

**Уладзімір Шык.**

## Жылося прывольна-весела ў Нацпарку

Не так даўно да крымінальнай адказнасці была прыцягнута галоўная бухгалтарка Нацыянальнага парка «Браслаўскія азёры». Маладая жанчына скрала летась з касы 1 млрд. 300 млн. недамінаваных рублёў. За гэта яе асудзілі на шэсць гадоў пазбаўлення волі. Цяпер вымушаны адказваць на пытанні следчых абласнога ўпраўлення Камітэта па арганізаванай злачыннасці пры МУС генеральны дырэктар гэтага прадпрыемства. Папярэдні памер прысвоенай ім маёмасці і наяўных грошай акрэслівацца ў суму больш за 225 млн. рублёў. Устаноўлена некалькі фактаў атрымання грошай за быццам бы прыём афіцыйных дэлегацый, прысвоения сродкаў пры рэалізацыі прапускоў за праезд па запаведнай тэрыторыі. Усё гэта дало падставу пракурору раёна распачаць крымінальную справу супраць яшчэ нядаўна ўплывовага кіраўніка і дэпутата райсавета.

**Уладзімір Раманчук**

## Па году за кожны стрэл

Доўга прыйдзецца жыхару Калінінграда Уладзіміру Ластаўку шкадаваць аб сваім неабдуманым учынку. Мінулым летам ён ехаў у родныя мясціны і ў ваколіцах Шаркоўшчыны распачаў стральбу па аўтамашыне мясцовага калгасніка, зазлаваўшыся на тое, што яго ніхто не хоча падвозіць. Пры спробе ўцячы ён быў паранены і затрыманы ўчастковым. Нядаўна суд вынес свой прыгавор -- узброены госць з Калінінграда атрымаў тры гады і шэсць месяцаў пазбаўлення волі ў калоніі ўзмоцненага рэжыму. Уладальнік жа старэнькага «Масквіча», па якому страляў расіянін, і члены яго сям`і «на шчасце», не пацярпелі. Вадзіцелю прыйшлося толькі адрамантаваць прастрэленае правае крыло свайго аўтамабіля.

**У. Шайкоў**

**Гісторыя далёкая і блізкая**

**Уладзімір ШЫК,**
журналіст, ПАСТАВЫ

# ШЧЫРЫЯ СЭРЦЫ

## САЮЗ БЕЛАРУСКІХ ПАТРЫЁТАЎ

# МАЎЧАЦЬ НЕ МАГЛІ

**Мяне часта непакоіць адна думка: кепска, недаравальна дрэнна большасць з нас ведае сваю айчынную гісторыю і свае радавыя карані. Спытайцеся ў сённяшніх жыхароў райцэнтра, ці памятаюць яны што-небудзь пра пасляваенную дзейнасць Саюза Беларускіх Патрыётаў (СБП) у Глыбокім і добра, калі нехта са старэйшых узгадае нешта пра гэтую маладзёжную арганізацыю. Між тым, увосень 1945 года яе заснавалі студэнты тагачаснага Глыбоцкага педвучылішча. Да іх далучыліся вучні сярэдніх школ горада, а наступнай вясной СБП падтрымала аналагічная суполка з Пастаў.**

Не маглі не бачыць не па гадах адукаваныя, перажыўшыя вайну хлопцы і дзяўчаты, што зусім не так, як прапагандавалася, будуецца жыццё пры савецкай уладзе ў фармальна незалежнай БССР. Акрамя названых мястэчкаў ў Слоніме, Баранавічах, Навагрудку, Ганцавічах, Брэсце моладзь узнялася супраць палітыкі масавай русіфікацыі роднага краю, замоўчвання праўдзівай гісторыі Беларусі, адмаўлення ад нацыянальных святыняў, выцяснення з шырокага ўжытку беларускай мовы; змагалася супраць таго, што так шпарка робіцца на дзяржаўным ўзроўні і цяпер.

Хочацца расказаць як мага больш пра трагічныя лёсы і бязлітасна растаптаныя памкненні маладых патрыётаў Бацькаўшчыны, якія першымі ў змрочныя часы сталіншчыны не ўспрынялі таталітарны камуністычны рэжым, засталіся людзьмі і сапраўднымі грамадзянамі. Яны заслугоўваюць, каб пра іх, цяпер пасівелых, інтэлігентных і мужных людзей, ведала сённяшняе і будучае пакаленні суайчыннікаў. А пачну свой артыкул з поўнага спісу сяброў Глыбоцкай групы СБП і іх успамінаў аб перажытым.

Кіраўнік групы -- Васіль Мядзелец, быў прыгавораны да смяротнага пакарання, якое замянілі на 25 гадоў зняволення. Сакратар Антон Фурс асуджаны на 15 гадоў пазбаўлення волі. Сябры суполкі: Цярэнцій Еўдакімаў -- смяротнае пакаранне, замененае на 25 гадоў; Алесь Юршэвіч -- 25 гадоў; Леў Бялевіч -- 10 год; Іван Бабіч -- 25 гадоў (✝); Марыя Бабіч -- 10 год; Людміла Краснадумская -- 10 год; Алена Барсук -- 10 год (✝); Ларыса Барсук -- 10 год; Тамара Лагун (Барсук) -- 3 гады; Алег Табола -- 10 год; Гардзей Кліманскі -- 10 год; Віктар Дылевіч -- адзіны, хто здолеў пазбегнуць пакарання, бо здолеў выехаць у Польшчу; Мікола Пачопка -- 10 год (✝); Альберт Бацяноўскі -- 10 год; Пётра Спірковіч -- 10 год (✝); Мікола Конан -- 10 год; Лявон Казак -- 10 год; Віктар Бабіч -- 10 год (✝); Лідзія Несцяровіч -- 10 год; Юстын Протас -- 10 гол (✝); Станіслаў Савік -- 10 год. Невядома, што прысудзілі ў МГБ Леаніду Баговічу і Міхаілу Шуману і Паўлу Шуману.

**Знак (✝) азначае, што чалавек памёр.*

Гэта былі і ёсць лепшыя з лепшых на нашай зямлі, з адзінай мэтай, з цяжкім, падобным адзін да аднаго лёсам, выхаваннем і светаўспрыманнем.

## РОДНАЙ МОВЫ НЕ АДРАКЛІСЯ З МАЛЕНСТВА

Большасць вышэй-пералічаных родам з сялянскіх хат; цягнуліся да ведаў, звездалі прымус «мувіць толькі на «гжэчнай» мове. У гады вайны многія ўваходзілі ў шэрагі Саюза Беларускай Моладзі, што толькі ўзмацніла іх нацыянальнае пачуццё. Калі падраслі і сталі студэнтамі, юнакі і дзяўчаты, ужо не маглі мірыцца са знішчэннем роднага слова, усяго адметнага беларускага...



Васіль Мядзелец. *(пасля лагера)* Кіраўнік Глыбоцкай групы СБП.

**Васіль Мядзелец.** Нарадзіўся ў 1928 годзе ў вёсцы Ружанполле на Мёршчыне. Адукацыю атрымаў у Язненскай школе. Адзін з першых студэнтаў, які арыштаваны ў лютым 1947 года. Тэрмін адбываў на Нарыльскім меднанікелевым камбінаце. Летам 1956 вызвалены датэрмінова. Скончыў горна-металургічны інстытут, працаваў да пенсіі. Рэабілітаваны, як і астатнія ўдзельнікі СБП, за адсутнасцю складу злачынства. Зараз на пенсіі, жыве ў Полацку:

-- *«Як ні дзіўна, але якраз школа з яе ваяўнічай, надакучлівай пальшчызнай, дала мне першыя ўрокі нацыянальнага пачуцця. Настаўнікі пад страхам пакарання патрабавалі не ўжываць «тутэйшыя», «хлопскія», нібыта непрыстойныя, брыдкія словы, каб размаўлялі толькі «гжэчна», «пенкна». Тым самым яны абуджалі ў нас пратэст супраць гвалту над роднай мовай, выклікалі непрыязнь да мовы польскай, аднолькава вартаснай, як і любая іншая ў свеце, і нічым не вінаватай. Няўжо яны не разумелі, што нават малое дзіця не магло гідзіцца гаварыць так, як гавораць у роднай хаце».*

**Людміла Краснадумская.** Нарадзілася ў вёсцы Краўцы на Глыбоччыне. Шмат вучылася. У часы акупацыі паступіла ў Пастаўскую настаўніцкую семінарыю. Пасля арышту, цяжарная, прайшла праз шэраг турмаў і этапаў Варкуты і Казахстана. Засталася жыць з сям`ёй у сяле Актар Курцінскага раёна Алма-Ацінскай вобласці, зараз на пенсіі:

*«-- У семінарыі мне адкрылася шмат дагэтуль маловядомага, а то і невядомага, такога цікавага, узрушанага для душы пра нашу Беларусь! У нас, аказваецца, была вартая захаплення гісторыя. Нікога з нас не рыхтавалі прыслужваць. І немцам мы ніколі не прыслужвалі. Нас вучылі быць патрыётамі Беларусі...»*

**Антон Фурс.** Нарадзіўся ў 1928 годзе ў мястэчку Язна на Мёршыне. Шмат вучыўся. Пры немцах паступіў у Глыбоцкую прагімназію. У педвучылішчы разам з сябрамі распрацаваў праграму і статут Саюза Беларускіх Патрыётаў. Прайшоў праз турмы ў Паставах і Мінску; лагеры ў Свярдлоўскай вобласці і пад Карагандой, удзельнічаў у паўстанні вязняў у 1954 годзе ў КАРЛагу. Пасля вызвалення 25 гадоў адпрацаваў на будаўніцтве ў Казахстане. З 1982 года жыве ў Паставах, пенсіянер.

*«Нашы задачы былі культурна-асветніцкія, як сёння сказалі б, адраджэнцкія. Перш за ўсё мы самі абавязаліся быць сапраўднымі патрыётамі Радзімы, заўсёды і ўсюды гаварыць па-беларуску, па свойму, шанаваць родную мову, культуру, гісторыю, традыцыі, прапагандаваць іх сярод свайго народа, вяртаць нашых людзей да нацыянальнай памяці, абуджаць пачуццё нацыянальнай годнасці».*



Глыбоцкая група Саюза Беларускіх Патрыётаў. *Сядзяць (злева направа): Антось Фурс, Леў Бялевіч, Янка Бабіч, Пятро Спірковіч. Абдымае сяброў Марыя Бабіч.*



Сябры Глыбоцкай групы СБП (злева направа) Антось Фурс, Мікалай Пачопка, Гардзей Кліманскі (пасля няволі).

**Лідзія Мельнік (Несцяровіч).** Нарадзілася на Дзісеншчыне ў заможнай сям`і. Будучы студэнткай педвучылішча, ў ліку першых, падтрымала суполку СБП. На яе кватэры сябры і аднадумцы прымалі прысягу на вернасць Беларусі. За гэта зведала лагеры Кемераўскай вобласці і этап паблізу Караганды. Увосень 1954 года датэрмінова вызвалена. Да пенсіі працавала ў дзіцячым садку казахскага пасёлка Кулагір, дзе жыве і зараз:

*«Згаджаючыся прыняць купку маладых людзей, намеры якіх ведала і да якіх шчыра далучалася, я разумела, што іду на пэўную рызыку. Але у той час мне і ў галаву не прыходзіла, што з нашага абсалютна міралюбнага, калі сёння падумаць, бяскрыўдна-рамантычнага намеру заснаваць гурток прыхільнікаў беларускай мовы, гісторыі, куль-туры і патрыётаў сваёй Радзімы праз год з нечым зробяць невядома якое небяспечнае злачынства. Хто з нас мог уявіць такое, нават ведаючы, якой славай карысталася ў народзе МГБ?»*

## ЗАЎСЁДЫ БУДУ ВЕРНЫ БЕЛАРУСІ

У глыбоцкай маладзёжнай арганізацыі не было выразна акрэсленай структуры: існавалі толькі пасады старшыні і сакратара. СБП падраздзялялася на «пяцёркі», у якіх кожны ўдзельнік ведаў чатырох астатніх і старшыню. У гэтых гуртках і вялася асноўная праца. Не прадугледжвалася ні сходаў, ні канферэнцый па прычыне канспірацыі. Кожны кандыдат прымаў прысягу, якая насіла характар маральнага абавязку.

**Алесь Юршэвіч.** Вучыўся ў Язненскай школе, затым у Глыбоцкай СШ№1. Увосень 1946 года паступіў у Беларускі дзяржаўны універсітэт. Яшчэ ў старэйшых класах прапаноўваў сябрам стварыць СБП па прыкладу таварыства філаматаў-філарэтаў, што дзейнічала ў 19 стагоддзі ў Віленскім універсітэце і сам склаў тэкст прысягі. Арыштаваны і асуджаны ў Мінску. Замест смяротнай кары атрымаў працяглы тэрмін. Пад час хрушчоўскай адлігі ў 1956 годзе выйшаў на волю з лагера ў Кемераўскай вобласці, вярнуўся на радзіму. Жыве ў Мёрах:

*«Радкі прысягі пісаліся лёгка, `мо таму, што ішлі ад шчырага сэрца. **"Я (кожны перад бел-чырвона-белым сцягам і выявай „Пагоні", якую пераслалі з Пастаўскай групы, „За Беларусь" называў сваё імя і прозвішча), уступаючы ў Саюз Беларускіх Патрыётаў, прысягаю перад Бацькаўшчынай і беларускім народам, што заўсёды буду верны ідэалам свабоды і незалежнасці Беларусі. Калі ж па слабасці сваёй, або па злому намеру я парушу гэтую прысягу і выдам тайну сяброў, хай пакарае мяне Бог ганебнай смерцю здрадніка Радзімы».***



Антось Фурс. КАРЛаг. 1955 год

**Леў Бялевіч.** Родам з сям'і шчырых беларусаў з вёскі Багуцкія на Мёршчыне. Змалку цягнуўся да ведаў. За ўдзел у СБП адбываў тэрмін у лагеры пад Мінскам, потым у лагерных шахтах Комі АССР да 1955 года. Затым з жонкай Марыяй Бабіч, таксама сябрам СБП, вярнуўся пад Інту, працаваў шахцёрам. З 1984 года на пенсіі, жыве ў Полацку:

*«Мы зрабілі не так і шмат. СБП праіснаваў нядоўга. Арганізацыйнае стаўленне зацягнулася, бо сярод нас аказаліся падасланыя НКВДэшнікі «сексоты», праз якіх МГБ усё ведала пра нас... Не зразумела толькі чаму, маючы патрэбную інфармацыю, яны не спяшаліся распраўляцца з намі. `Мо разумелі, што не ставілі мы маштабных супрацьдзяржаўных задач. Сваю мэту бачылі даволі сціпла: павышаць уласную нацыянальную свядомасць і свядомасць людзей, асабліва маладых, з якімі будзем жыць і працаваць».*

**Мікола Конан.** Нарадзіўся ў 1929 годзе ў мястэчку Лужкі Шаркоўшчынскага раёна. Скончыў Глыбоцкае педвучылішча. Працаваў настаўнікам у Залессі, завочна вучыўся ў сталічным педінстытуце. Адмовіўся быць «сексотам» і быў асуджаны ў 1948 годзе толькі за некалькі надрукаваных раней на машынцы лісткоў з тэкстам прысягі СБП. Удзельнік Нарыльскага паўстання вязняў у 1953 годзе. Праз год быў вызвалены, працаваў шахцёрам у Інце, завочна вучыўся ў Ленінградскім горным інстытуце. Пасля выхаду на пенсію вярнуўся на Беларусь. Жыве ў родных сэрцу Лужках:

*«Афіцэр райваенкамата, куды спачатку выклікалі, прывёў мяне ў самы страшны у Глыбокім будынак, у аддзел МГБ. Там, у кабінеце, за глухімі дзвярыма, у мяне пачалі пытацца, што я ведаю пра Саюз Беларускіх Патрыётаў, які быў выкрыты ў нашым педвучылішчы. Я адказаў, што не ведаю нічога. Я і не схлусіў. Тады мяне пужаюць: «Калі не скажаш праўды, мы самі ўсё выведаем. Але тады не паздаровіцца не толькі табе, але і тваім блізкім, сваякам». Я зноў пацвердзіў свой адказ... Назаўтра, пасля ночы, праведзенай пад замком, ужо не хаваючыся, прапанавалі стаць сакрэтным супрацоўнікам («сексотам»), аказаць паслугі чэкістам, дапамагаць органам у барацьбе з «ворагамі народа».*

***Заканчэнне будзе.***

# З Божай дапамогай у дзень заўтрашні

Мінулагодняя зажынкі ў калгасе «Перамога» Глыбоцкага раёна прайшлі ўрачыста і запамінальна. Да хлебаробаў на свята прыйшло шмат дзетак, хлопчыкі і дзяўчынкі з Мінска на цудоўнай беларускай мове спявалі песні, чыталі вершы, уручалі камбайнерам кветкі. Потым ксёндз Антоній, які нясе службу Госпаду у кафедральным саборы імя найсвяцейшай Марыі Панны, акрапіў святой вадой мехток, усе пяць «Донаў» і пажадаў вяскоўцам плёну ў працы.

З пачаткам масавага жніва тады супала адкрыццё першага на Віцебшчыне стацыянарнага культурна-рэлігійнага цэнтра ў вёсцы Пятроўшчына. Раней тут працаваў дзіцячы садок, выхоўвалася 50 немаўлят. Па прычыне падзення нараджальнасці чатыры гады назад прыйшлося закрыць апусцеўшую дзіцячую ўстанову. Прадпрымальныя асобы захацелі адкупіць будынак і адчыніць бар. Каб задума тая здзейснілася, то памяшканне садка пераўтварылася б у бардэль, бо месціцца будынак у жывапісным месцы на бойкай шашы ў прыбалтыйскім напрамку і жадаючых выпіць, з асалодай правесці час хапала б.

Супраць такой перспектывы рашуча выступіла старшыня калгаса Алена Дзягель. Год з нечым менавіта яна мела гонар -- была запрошана ў Італію, сустракалася ў Ватыкане з Папам Янам Паўлам II. Ён пажадаў пазнаёміцца з вясковым кіраўнікам з Беларусі, пра якога дайшлі добрыя водгукі.

Алена Іосіфаўна шмат паспрыяла адраджэнню на землях калгаса праваслаўнай і каталіцкай святынь. Да таго ж, як веруючы чалавек, шчырая верніца, старшыня калгаса імкнецца, каб і падначаленыя жылі па-боску, сумленна працавалі, з павагай адносіліся да сябе і сваіх блізкіх. Старанне і намаганні старшыні і калгаснікаў дарма не прападаюць. Калгас «Перамога» жыве за свае сродкі, не мае даўгоў, своечасова разлічваецца з людзьмі. Калгаснікі зарабляюць тут больш за іншых на Глыбоччыне, дабіваюцца добрых вынікаў у працы, моляцца, шануюць нядзелю і іншыя святочныя дні.У калектыве паступова пазбаўляюцца хлусні, ляноты, крадзяжоў, п'янства і іншых, характэрных для вёскі, «хвароб» савецкага часу.

Па-свойму распарадзілася старшыня і з будынкам былога дзіцячага садка. У адной палове памяшкання абсталявалі капліцу. Свабоднымі заставаліся сталовая і яшчэ некалькі пакояў.Ідэю стварыць тут рэлігійны і культурны Цэнтр падтрымаў святар з Мосара Ёзас Булька. Не сталі перашкаджаць задуме і мясцовыя ўлады. Агульнымі намаганнямі калгаса і касцёла была зроблена карысная праца.


Фота Ул. Скрабатуна

Тэрыторыю рэлігійнага Цэнтра аздобілі штучным вадаёмам з мастком, калгасныя будаўнікі зрабілі грот, у якім бачна выява Маткі Боскай. Інтэр'ер Цэнтра зроблены з густам. Вернікі паклапаціліся, каб была зручная мэбля, каб быў наладжаны быт.

Асноўная праца Цэнтра разлічана на час летніх канікул, калі сюды будуць прыязджаць на два-тры тыдні хлопчыкі і дзяўчынкі, у свядомасць якіх ужо запалі звесткі пра хрысціянскія каштоўнасці. Практыка першых пробных заездаў паказвае, што акрамя гульняў і забаў, без якіх не жыць дзетвары, асноўны ўпор трэба рабіць на пашырэнне ведаў па краязнаўству, этнаграфіі, гісторыі роднага краю, самапазнанне сябе. Богаслужэнні вядуцца тут на беларускай мове. Дзеці вывучаюць Біблію, удзельнічаюць у конкурсах і віктарынах рэлігійнай накіраванасці.

Акрамя гэтага, дзеці будуць працаваць, вучыцца абслугоўваць сябе. Рухомыя гульні, заняткі спортам, паходы і экскурсіі запоўняць кожны дзень. Магчыма, нехта ўбачыць ў стварэнні ў Пятроўшчыне падобнага Цэнтра пэўную палітыку. А я скажу, паболей бы нам такой палітыкі: рэлігійнае жыццё ў краіне павінна быць не данінай модзе, не нейкай традыцыяй, а патрэбай кожнага чалавека класціся спаць, уставаць і жыць з Божай верай, міласцю і любоўю. Алена Іосіфаўна перакананa, што ў душах тых, хто пабываў тут і яшчэ наведаецца, не паселяцца злосць і зайздрасць, насілле і распуства. Людзі, якія праходзяць выпрабаванне верай і жывуць па запаведзях Божых, ніколі не будуць пакланяцца ідэалагічным бажкам. Трывалай асновай Божай дзяржаўнасці і стаў культурна-рэлігійны Цэнтр у Пятроўшчыне, у якім гарыць нязгаснае святло надзеі.

**У. Шык**

## Гумар апошняй паласы

**Цяжкае эканамічнае становішча ў краіне адбілася на матэрыяльным становішчы маёй сям'і: жонка зноў пачала эканоміць на мне.**

**Пакрыўджаны муж.**

## Галіна Вішнеўская прыехала на радзіму

Оперная расійская спявачка Галіна Вішнеўская, ураджэнка Санкт-Пецярбурга, са сваім мужам, вядомым дырыжорам С. Растраповічам, якія жылі і працавалі за мяжой, нядаўна захацелі купіць ў горадзе на Няве дом, у якім было 37 камунальных кватэр. Жыхары дома, даведаўшыся аб гэтай падзеі, крычалі: «Купіце нас!». Галіна Вішнеўская прызналася, што чула такое ўпершыню ў жыцці.Зараз усе жыхары выкупленага дома маюць асобныя кватэры. Да таго ж, Галіна з мужам маюць вялікі маёнтак ў Амерыцы, дзе яго 400 гектараў зямлі, ёсць прыслуга, паліцэйскі, якім гаспадары плоцяць зарплату. Сям'я Растраповічаў мае кватэру ў Вашынгтоне, у Нью-Йорку, у Лазане, у Парыжы. Галіна Вішнеўская мае шасцёра ўнукаў. Яе дачка Алена з мужам жыве пад Парыжам, а Вольга -- у Амерыцы.

Выехаўшы з нішчымнай Расіі, якой непатрэбен быў талент спявачкі, талент дырыжора, муж і жонка за некалькі год зарабілі на годнае існаванне і сабе, і дзецям, і ўнукам.

Калі падумаўшы, чым больш у краіне багатых людзей, тым лягчэй пражыць беднейшым.

**А.Ш.**

Рэха падзей

## Д. Спекхард аспрэчвае інфармацыю

Пасол ЗША у Беларусі Дэніел Спекхард заклапочаны рашэннем Мінскага гарвыканкама забараніць вулічныя шэсці апазіцыі пасля таго, як у «Маршы Свабоды-2» прыняла ўдзел каля 25 тысяч чалавек. Д. Спекхард не прыняў абвінавачванне ў тым, што ЗША фінансуе палітычную апазіцыю. Такая заява прагучала 14 сакавіка ў ходзе выступлення ў Нацыянальным сходзе А. Лукашэнкі. Той заявіў, што летась апазіцыя атрымала ад краін Захаду 8 млн. долараў афіцыйна і 108 мільёнаў у цэлым. Па словах Спекхарда, сума ў 8 млн. долараў--гэта тыя грошы, якія пайшлі на гуманітарную дапамогу, падтрымку недзяржаўных арганізацый і праграм студэнцкага абмену. «Нельга казаць, што гэтымі грашамі фінансуецца палітычная апазіцыя,--сказаў пасол. --Што тычыцца 108 млн. долараў,то я ніколі не чуў гэту лічбу раней і не ведаю адкуль яна ўзялася».

А. Знаткевіч, БелаПан

## Супраць вайны ў Чачні

17 сакавіка ў Мінску ў кіламетры ад расійскага пасольства быў арганізаваны санкцыянаваны пікет супраць вайны ў Чачні і генацыда чачэнскага народа. У расійскае пасольства была перададзена петыцыя ў якой значылася: «Увесь народ не можа быць бандыцкім, а супраць тэрарыстаў павінны змагацца снайперы, а не танкі і авіацыя. Смерць соцень людзей не можа быць апраўданай нічым, ніякімі вышэйшымі інтарэсамі. Адказнасць за масавыя забойствы ў Чачні нясе вышэйшае расійскае кіраўніцтва на чале з У. Пуціным».

Г. Барбарыч, БелаПан

## Навіны Саюза

Для прапаганды ідэі «шчаслівага» яднання Расіі і Беларусі, па ўсёй бачнасці, будуць створаны новы тэлевізійны канал «Саюз» і «самастойная саюзная газета».

***

-- ЗША лічыць, што Расія можа прадаваць узбраенняў на суму не болей 3,5 млрд. долараў у год, Расія ж мае намер павялічыць продаж да 4,5 млрд. Тут будзе не-малая доля беларускіх тавараў, -- піша М.Гусеў у «Народнай газеце».

***

Саюзны бюджэт складзе 2 млрд. 230 млн. расійскіх рублёў. З іх 780 млн. унясе беларускі бок.

## Падробкі на рынках

Падробную пяцітысячную банкноту спрабавала збыць на рынку ў Шаркоўшчыне раней судзімая жыхарка Мёр. Пры затрыманні ў яе знайшлі яшчэ 14 «ліпавых» банкнот. Пры правядзенні вобыску ў яе дома была знойдзена і фальшыўка ў 100 долараў. Падобны выпадак не адзіны. Летась у сярэдзіне лістапада прыезджая з Мёршчыны збыла дзве 100-доларавыя банкноты прадпрымальнікам. Абедзвюм затрыманым пагражае турэмны тэрмін.

**У. Шык**

# Давайце разбіраць кароў па хатах

Пры Сталіне хуткімі тэмпамі праводзілася калектывізацыя. Калгасы тады ствараць было вельмі проста. Заможных людзей, якія ўласным мазалём нажывалі дабро, рабілі кулакамі, высылалі, садзілі ў турмы, а іх гаспадаркі «нацыяналізавалі». Усё павінна было быць калектыўным, агульным: свінні, каровы,коні, куры, нават каты. Праўда, апошнія ніяк не жадалі мірыцца са сталіншчынай і вярталіся кожны на сваю печ.

Сёння сітуацыя такая, што некалі «нацыяналізаваная» ў людзей жыўнасць (у дзесятым калене)не ў сілах вытрымаць галадоўку. Кароў выпраўляюць на «Салаўкі», на Гомельшчыну, Магілёўшчыну -- на «вольныя хлябы»--гнілаватую салому, якая для жывёлы зараз, што «печатный пряник». Можа прыйшоў час перастаць «хварэць» на бальшавіцкую дурноту ды здзекавацца над усім жывым: паразбіраем кароў па хлявах--аджывуць, малачко дадуць, на свет глянуць весялей, а разам з імі і мы адчуем сябе ўпэўнена, калі дзяржава належна аплоціць за здадзеную прадукцыю, хоць крыху дапаможа з кармамі, скажа «дзякуй» за цяжкую сялянскую працу, а то ўсе мы што чужынцы на радзіме, піхаюць хто ад сябе дэкрэтамі, загадамі. Якога яшчэ ражна ўладам трэба -- людзі гатовы працаваць. Заплаціце, паважайце чалавека, тую ж карову бедную, што ад галадоўкі на ланцугу вешаецца.

**М. Ясінскі**

Глыбоцкі раён



Мой белы свет, хай час твой не канчаецца.
Табе зноў нараджацца, не старэць...
Зямля і сонца раніцай вянчаецца,
Каб маладым каханнем абагрэць.

**С. Законнікаў**



«ВОЛЬНАЕ ГЛЫБОКАЕ»
Незалежная рэгіянальная газета.
Заснавальнік: Уладзімір Скрабатун
Рэдактар: Галіна Сутула

Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №1099, выдадзена Дзяржаўным Камітэтам Рэспублікі па друку 25 верасня 1998 года

Газета выходзіць два разы на месяц. Аб'ём -- друкаваны аркуш. Падпісана ў друк 25 сакавіка 2000 года ў 12-43.

Меркаванні рэдакцыі і аўтараў могуць не супадаць. Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць і падбор матэрыялаў.

Юрыдычны адрас: 211800, г. Глыбокае, вул. Маскоўская, 12
Тэлефон: 23754 (Галіна СУТУЛА)

Наклад 1000 паасобнікаў
Адрас для допісаў: 211800, г. Глыбокае, вул. Валадарскага, 67.

Надрукавана ў Наваполацкай узбуйненай друкарні: г. Наваполацк. вул. Блахіна, 26 Замова 2170